Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

ІНФАРМАЦЫЯ | No 1 * 28 красавіка— 4 мая 1995 года | РЭКЛАМА

## Вітаем вас!

Добры дзень, наш дарагі чытач! Ты трымаеш незнаёмую яшчэ газету. Але гэта зусім не азначае, што мы— незнаёмцы. Мы ведаем адзін аднаго, бо жывём побач. «Рэгіянальная газета»— выданне для землякоў. Выданне, якое хоча стаць карысным і неабходным кожнаму.

Толькі тут валожынец зможа знайсці звесткі з суседняй Маладзечаншчыны, а жыхар Смаргоні прачытаць пра блізкую Мядзельшчыну. Наша інфармацыя рыхтуецца вопытнымі журналістамі практычна ў кожным горадзе рэгіёна, але мы спадзяемсмя і на дапамогу радавога чытача. Вашы пісьмы дапамогуць выбраць актуальную тэму, раскажуць аб цікавай падзеі. Калі на вашым шляху паўстануць праблемы— не саромцеся напісаць у рэдакцыю.

Стомленыя сённяшнім жыццём людзі часта з недаверам ставяцца да нова-а. Новаўвядзенні ў палітыцы, навацыі ў эканоміцы звязваюцца часам з тым развалам, які паўстае перад вачамі кожнага. «Рэгіянальная ж газета» узяла сабе мэтай дапамагчы ажывіць дзесяцігоддзямі існаваўшыя чалавечыя і гаспадарчыя сувязі нашага краю. Дзелавая інфармацыя і рэклама, што рыхтуюцца рэдакцыяй, паспрыяюць скараціць адлегласці паміж штучнымі межамі раёнаў і абласцей, дапамогуць правільна зарыентавацца ў сітуацыі гаспадарніку, кожнаму звычайнаму чалавеку.

Купіўшы «РГ» у кіёску «Белдруку» або атрымаўшы па падпісцы, уважліва прагледзце нумар. Абавязкова знойдзеце ў ім нешта блізкае па інтарэсах, патрэбнае штодня. «Рэгіянальная газета» будзе рэгулярна друкаваць на сваіх старонках даведачную інфармацыю аб руху транспарту, рабоце магазінаў і рынкаў, наяўнасці рабочых месцаў на прадпрыемствах і ў арганізацыях. Самыя вострыя праблемы рэгіёна стануць у цэнтры нашай увагі.

Так, шмат выданняў прэтэндуюць на тое, каб з'явіцца ў вашых руках. Цяжка зрабіць выбар. Але мы не трацім надзеі на ўзаемаразуменне і вашу падтрымку. І не таму, што «Рэгіянальная газета»— самая даступная па цане газета. Таму, што мы— адзіная газета на тэрыторыі, якая сапраўды даўно сфарміравалася і жыве як цэльны рэгіён. А недарагой дапамагае яе рабіць рэклама. І не гэткая, што набіла аскоміну кожнаму. Бо рэкламадаўцы— нашы чытачы.

А пакуль— цікавых хвілін з нашай газетай, і, спа-дзяемся, да сустрэчы праз тыдзень!

***Рэдакцыя***

1 мая— свята працы

## «Я не люблю гэты дзень...»

Мой каляндар нагадвае: 1 мая — «чырвоны дзень»— Свята працы. Тэлефаную свайму старому знаёмаму, добрая падстава сустрэцца.

—Разумееш, не атрымаецца,— чую ў адказ.— Еду да бацькоў у вёску. Работы шмат. Я цяпер амаль увесь час там прападаю. З завода ўсё ж скарацілі. А што да свята, то, шчыра кажучы, не люблю я гэты дзень. Раней транспаранты, партрэты з адкормленымі фізіяноміямі прымушалі насіць па плошчы. Цяпер... і цяпер як здзекванне нейкае. Прабач. Сустрэнемся як-небудзь пазней...

Прабач і мяне, дружа. Я добра цябе разумею, бо таксама адчуваю горыч у душы напярэдадні 1 мая. Так, нас прымушалі несці транспаранты і партрэты ў гэты дзень раней. Памятаеш, нават у сумна вядомым усяму свету 1986-м выгналі на плошчы. Маўляў, пакажам капіталістам, што нічога страшнага ў нас не здарылася. Гуляй, браткі!

Гэткі дзень усесаюзнага апраменьвання арганізавалі. І дзяцей не пашкадавалі.

Чым цяпер разлічваемся за тыя лозунгі, заклікі? Здароўем. Сваім і, штот вельмі балюча, здароўем сваіх дзяцей. Я ў той час працаваў у Мазыры і памятаю, як строга папярэджвалі «зверху» настаўнікаў школ, выкладчыкаў вучылішчаў, інстытута аб «стопрацэнтнай яўцы». Аб сваіх дзецях тыя, хто быў «зверху», вядома ж, своечасова паклапаціліся. Ды і самі хутка пакінулі забруджаны раён, перасеўшы ў больш мяккія крэслы.

А цяпер наконт тваёй праблемы, дружа. Прабач, але дазволю сабе расказаць анекдот, які пачуў нядаўна. Дык вось. Ідзе па вуліцы жанчына і горка плача.

—Што здарылася?

—Так, скарацілі...

—Дарэмна плачаш. Вунь Вярхоўны Савет увесь скарацілі і ніхто з іх не плача.

—Ага... Яны ж на пяць гадоў уперад сябе ўсім забяспечылі.

—Дык жа заслужана. Ты вось колькі гадоў падлогу мыла? А яе і цяпер мыць трэба, а яны людзям так мазгі прамылі, што і за дзесяць гадоў не забрудзяцца.

Не, я не пра вынікі работы Вярхоўнага Савета буду гаварыць. Я пра цябе скажу два словы. Ты маеш галоўнае— светлую галаву і залатыя рукі. Ты— класны спецыяліст і ніколі не застанешся без работы. Такіх як ты кіраўнікі фірм шукаюць, павер. Вазьмі, пагартай газеты, пачытай уважліва аб'явы. І не чакай, пакуль цябе знойдуць. Сам пастукайся ў дзверы. Табе адчыняць.

Ну, а калі ўсё ж закрануць вынікі работы Вярхоўнага Савета, то некалькі лічбаў можна было б і прывесці. Сёлета ў рэспубліцы па звестках службы занятасці колькасць беспрацоўных дасягнула 109235 чалавек. У тым ліку ў Мінску 9190, Маладзечне і раёне— 2560, Мінскай вобласці— 21160, Гродзенскай— 12434 чалавекі. Колькасць беспрацоўных пастаянна расце. Толькі за першы квартал бягучага года іх зарэгістравана ў рэспубліцы 46307 чалавек. Зразумела, тут не ўлічваюцца тыя лічбы, за якімі хаваецца так званае скрытае беспрацоўе. калі на прадпрыемствах людзей прымусова адпраўляюць у неаплачваемыя адпачынкі, скарачаюць рабочыя тыдні.

***Міраслаў ГРОМ***



Суграмадзяне

## Будуем царкву. Жывём у згодзе

**АСТРАВЕЦ.** Менавіта так могуць сказаць сотні жыхароў Астравеччыны, прыхаджан адносна нядаўна зарэгістраванага прыходу рускай праваслаўнай царквы.

У гэтым краі заўсёды жылі праваслаўныя. Не столькі, колькі каталікоў, і ўсё ж. Але свайго храма не мелі. І вось два гады таму выпускнік семінарыі ў Жыровіцах айцец Павел, ураджэнец суседняй Смаргоншчыны, прыняў новы прыход. Пакуль вернікі моляцца ў прыстасаваным пад царкву доме, але ўжо закладзены будынак храма. Цяжка, ды дапамагаюць раённыя ўлады, арганізацыі. Ну, хаця б такія, як МПМК 158. Нулявы цыкл адолелі. Глядзіш-- праз некаторы час да добрага дзесятка касцёлаў на Астравеччыне дадасца яшчэ адна хрысціянская святыня-- будыніна праваслаўнай царквы. А што да згоды, дык каталікі і праваслаўныя ніколі тут не мелі што да дзяльбы. Жыццё яднае ўсіх. У бядзе нікога не пакінуць. Як не пакінулі сотню сем'яў з Хойнікаў. Дзевяць год прайшло пасля Чарнобыля. А родныя грыбныя і ягадныя мясціны па сёння сняцца ім. Але з'явіліся новыя сябры, знаёмыя. Пра бяду не хочацца ўспамінаць. Працуюць, будуюць царкву, жывуць у згодзе.

***Антон ІВАШКЕВІЧ***



## Латарэйнае шчасце вас знойдзе!

**ВІЛЕЙКА.** Малое прадпрыемства «БРіК» паведамляе, што выпуск і тыраж грашова-рэчавай латарэі, якія планаваліся на красавік-май, па тэхнічных прычынах пераносяцца на чэрвень гэтага года. Сачыце за «Рэгіянальнай газетай» і латарэйнае шчасце выпадзе менавіта вам.

## 93, 94 Ці пагуляем сёлета на фестывалі?

Два гады таму ў Маладзечне адбыўся Першы рэспубліканскі фестываль беларускай эстраднай нацыянальнай песні і паэзіі. Не ўсё гладка атрымалася адразу. Самі арганізатары з гэтым таксама пагаджаліся. Але фестываль прыйшоўся даспадобы людзям. І, быццам ідучы насустрач іх пажаданням, вырашана было правесці Другі фестываль і ўвогуле зрабіць яго традыцыйным.

Летась усё было арганізавана на больш высокім узроўні. Гледачоў парадавалі сваімі песнямі нават Юрый Антонаў, Тамара Гвердцытэлі, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, салісты групаў «Палац», «Сябры» і іншыя зоркі эстрады.

Што рабілася на трыбунах! Дні, якія прыйшліся на правядзенне фестывалю, сталі як святы. Нездарма ўжо цяпер, больш чым за месяц да запаветнай даты, усё часцей можна пачуць размовы аб тым, што прапануюць арганізатары сёлета. Тым больш, як паведамлялася ў рэспубліканскай і мясцовай прэсе, аргкамітэт створаны, ідуць адборачныя конкурсы...

Аднак мусім расчараваць чытачоў: фестываль сёлета не адбудзецца. Гэта пацвердзіў і старшыня Маладзечанскага гарвыканкома С.К.Татарыновіч. Ён спаслаўся на дарагоўлю мерапрыемства.

—Але гэта зусім не значыць, што фестываль беларускай эстраднай песні і паэзіі наогул не будзе праводзіцца ў Маладзечне,— падкрэсліў Станіслаў Канстанцінавіч,— вырашаецца пытанне, каб мерапрыемства па-ранейшаму засталося традыцыйным і праходзіла праз год па чарзе са «Славянскім базарам».

***Аддзел інфармацыі***

Сенсацыя?

# Галоўнаму кантралёру-рэвізору ў рэгістрацыі адмоўлена

Днямі давялося з паўгадзіны пабавіць на прыпынку ў чаканні аўтобуса. Дзесятка з паўтара пасажыраў, згрупаваўшыся па некалькі чалавек, размаўлялі. Гаварылі аб сённяшнім нялёгкім жыцці-быцці, а найбольш— аб выбарах, прэзідэнцкім рэферэндуме.

—Ат, кандыдатаў шмат,— распачала дыскусію сімпатычная жанчына,— а галасаваць няма за каго.

—Сапраўды,— падтрымала яе спадарожніца,— веры цяпер усім мала. Як толькі атрымае каторы мандат— дбае толькі пра сябе, на выбаршчыкаў яму напляваць.

—І не кажы,— дадала трэцяя,— дэпутаты «на дарогу» такія льготы ўзаконілі, што былым партыйным кіраўнікам і не снілася. А ўсё адно, за некага галасаваць трэба...

За каго ж? На гэта пытанне адказу так і не пачуў. І не дзіўна. Яўнага лідэра сярод кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі на Мядзельшчыне няма, усе маюць прыблізна аднолькавыя шансы. На мой погляд, справа адным турам не завершыцца.

Так ужо атрымалася, што на адзін мандат дэпутата па Мядзельскай выбарчай акрузе N201 прэтэндуюць восем чалавек. Быў і дзевяты, але яму ў рэгістрацыі адмоўлена, бо ў падпісных лістах выяўлены фіктыўныя подпісы, іншыя парушэнні. Гаворка пра С.Арсёнава, галоўнага кантралёра-рэвізора КРУ упраўлення службы кантролю адміністрацыі Прэзідэнта па Мінску і Мінскай вобласці.

Кандыдатамі ж у дэпутаты зарэгістраваны старшыня калгаса К.Гапановіч, прафсаюзны работнік Р.Давідовіч, інжынер-будаўнік Г.М.Малышаў, галоўны ветурач калгаса Я.Сухарэўскі, начальнік РАУС І.Сымановіч, дырэктар сярэдняй школы А.Чараповіч, сакратар раённай партарганізацыі камуністаў М.Чаркасаў, старшыня аграфірмы П.Чарняўскі.

Хто пераможа? Думаю, людзі аддадуць перавагу найбольш актыўнаму кандыдату, у якога ёсць што сказаць выбаршчыкам, выпрацавана грунтоўная і прывабная праграма з канкрэтнымі шляхамі вырашэння існуючых не толькі ў рэспубліцы, але і мясцовых праблем. І, безумоўна, свае сімпатыі і галасы людзі аддадуць таму, каму больш паверацць.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.*

Крымінал

# Злодзей-вартаўнік

Сумяшчэнне гэтых прафесій не прадугледжвае ні адзін штатны расклад. Але, бывае, сумяшчаюць. Здараецца, і даволі ўдала.

Генадзь Дубаневіч працаваў у Вілейцы вартаўніком складаў малога прадпрыемства «ДМТ». У начны час ахоўваў ад злодзеяў памяшканне, побач з якім размяшчаўся і яшчэ адзін склад— МП «Ніка». За тым, вядома, Генадзю наглядаць ніхто не даручаў. Але прыгледзеўся вартаўнік. Толькі не з мэтай аховы.

Адной цёмнай поўначчу рабіць не было чаго. Ціш і спакой панавалі на даручаным яму аб'екце. Прайшоўся па суседніх, праверыў засаўкі. Дзверы МП «Ніка» лёгка падаліся зверху. Адціснуў іх.

Цікаўнасць, ліха яе бяры, штурханула Дубаневіча ўнутр памяшкання. А там вочы ўбачылі столькі каробкаў з тэлевізарамі, што грэх было не спакусіцца.

Адчыніўшы дзверы знутры, Генадзь спакусіўся аж на тры тэлепрыёмнікі «Віцязь». Нескладаны шлях на гарадскім аўтобусе— і тэлевізары апынуліся ў яго дома.

Самым прыемным ва ўсёй гэтай гісторыі было тое, што ўсё засталося шыта-крыта. Ніхто не заўважыў гэтай прапажы.

Праз тыдзень гэта стала зразумелым канчаткова, і Генадзь вырашыў паўтарыць аперацыю. Для новага маштабу спатрэбіўся большы «штат» і Генадзь запрасіў папрацаваць сужыцельку В.Букліс і яе сяброўку Р.Новаш. Пакуль жанчыны стаялі «на шухеры», ён паўтарыў ужо знаёмы шлях і вярнуўся з шасцю тэлевізарамі. Справа мелася стаць на салідную аснову, таму Дубаневіч шукаў транспарт і пакупніка.

Пакупніком-аптавіком аказаўся Ігар Стараверуаў, бармен бара «Філіпок». Ён і набыў у Дубаневіча крадзеныя тэлевізары. Адначасова зрабіў заказ на больш буйную партыю.

Дваццаць шэсць «Віцязяў» уплылі са склада яшчэ праз тыдзень, а разам з імі два халадзільнікі «Мінск» і адзін «Норд». І выплылі аж у Мінску.

Дубаневіч жа, атрымаўшы свае «зялёненькія», застаўся задаволеным. Астатнія ўдзельнікі «тэлегульні» атрымалі ў якасці прызоў тэлевізары.

Грузавік з таварам скіраваўся ў сталіцу, дзе Ігар Стараверуаў ужо знайшоў пакупніка.

Вось тады і спахапіліся гаспадары ўкрадзеных «Віцязяў», калі ўбачылі абрабаваны склад пры некранутых запорах. Забілі трывогу.

Узяліся за працу людзі ў міліцэйскай форме, і «раскруцілі» гісторыю, аб якой вы толькі што даведаліся.

Мясцовым Шэрлакам Холмсам засталіся ўдзячныя работнікі «Нікі», Генадзю Дубаневічу і К°аддзячыць хутка суд.

*Н. МІХАЙЛАВА.*

Слова калегам

# З'яўленне «Рэгіянальнай газеты» — заканамерная з'ява

З'яўленне на свет белы падобнага выдання калі не заканамерна, то лагічна. Так ужо склалася, што Маладзечна здаўна выступае як неафіцыйны цэнтр рэгіёна— геаграфічны, эканамічны, культурны і ў некаторай ступені гістарычны. Але да гэтага часу мы, жыхары Маладзечаншчыны, Вілейшчыны, Смаргоншчыны, Астравеччыны, Валожыншчыны ды іншых раёнаў не заўсёды своечасова і дакладна ведалі, што дзеецца ў нашых суседзяў. А жыццё з кожным днём усё вастрэй ставіць пытанні больш трывалых сувязяў паміж суседнімі раёнамі. Спрыяць іх развіццю, па майму глыбокаму перакананню, усімі даступнымі сродкамі якраз і будзе «Рэгіянальная газета».

У сваю чаргу як карэспандэнту рэспубліканскага радыё, у зону абслугоўвання якога ўваходзяць чатыры раёны Мінскай вобласці— Маладзечанскі, Вілейскі, Валожынскі, Мядзельскі і тры Гродзенскай— Смаргонскі, Ашмянскі і Астравецкі, хацелася б дапамагчы станаўленню новай газеты, вобразна кажучы, закласці свой камень у апоры новага маста сяброўства і супрацоўніцтва паміж суседзямі.

*Аляксандр ЛАЗОЎСКІ, уласны карэспандэнт Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі па маладзечанскаму рэгіёну, кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскай паўднёва-заходняй выбарчай акрузе N 197*

Анонс

# На 104 мільёны «нагрэлі» рыбную гаспадарку махляры

Прайдзісвет ведае, дзе блага ляжыць. Вось і здараецца такое. Аб бесталковасці адных і спрыце іншых чытайце ў матэрыяле «Не лавіце варон, не лавіце» **Паўла ЖУКАВА** ў наступным нумары «Рэгіянальнай газеты»

Нашы знаёмствы

# Скачок без парашута, або Каму абавязана сваім жыццём «Алеся»



**Спартсмены могуць з упэўненасцю сцвярджаць, што па складу характара і валявым якасцям ён бліжэй да іх кола. Артысты, медыкі, служыцелі царквы скажуць, што наадварот, у яго мяккая душа і добрае сэрца. Прадпрымальнікі аддадуць належнае яго халоднаму розуму, прадбачлівасці, уменню зарабляць грошы і ствараць умовы для прадукцыйнай працы сваіх падначаленых — супрацоўнікаў вядомай у Маладзечне шматпрофільнай вытворча-камерцыйнай фірмы «Алеся», генеральным дырэктарам якой з'яўляецца.**

**А што ён сам пра сябе думае! Ці гатовы адказаць вы на гэтае пытанне сам, Ігар Васільевіч!**

— Калі даў згоду на інтэрв'ю, то іншага выйсця ў мяне няма. Паспрабую адказаць коратка: я нармальны чалавек, як і большасць, маю асабісты погляд на жыццё, рэчы, якія мяне акружаюць. Вышэй за ўсё цаню ў чалавеку надзейнасць, уменне пераадольваць цяжкасці, працавітасць і сам імкнуся быць такім.

***— Вы сказалі, што маеце асабісты погляд на жыццё. Ці часта падводзіла вас інтуіцыя?***

— Чалавеку ўласціва памыляцца і я не выключэнне. Вопыт, а з ім і поспех прыходзяць праз цяжкія выпрабаванні.

***— На вашым жыццёвым шляху было шмат такіх выпрабаванняў?***

— Яны, можна сказаць, яшчэ не скончыліся.

***— Кім вы марылі стаць у дзяцінстве?***

— Як і ўсе хлопчыкі той пары — ваенным. Служыў у вядомай паветрана-дэсантнай дывізіі, што дыслацыруецца пад Віцебскам.

***— З парашутам не раз даводзілася скакаць?***

— Так. 28 разоў адчуваў прыемнае пачуццё палёту і шчаслівае прызямленне. Аднойчы, праўда, не пашанцавала. Атрымаў сур'ёзную траўму.

***— Як вы сталі прадпрымальнікам? Што падштурхнула арганізаваць сваю справу?***

— Буду шчырым. Першае, чым быў незадаволены, сваім матэрыяльным становішчам. Хацеў дапамагчы і бацькам. Яны шмат аддалі сіл, каб выхаваць нас, васьмярых дзяцей.

***— З чаго пачыналі?***

— Можна сказаць, з нуля. А дакладней — бралі банкаўскі крэдыт.

***— Вырашылі рызыкнуць?***

— Іншага выйсця проста не было. Мне тады ўсё сон сніўся, быццам я лячу, а парашут доўга не раскрываецца. Прыйшлося шмат папрацаваць, правесці не адну бяссонную ноч, каб усё задуманае паспяхова здзейсніць са сваімі калегамі. Другі крэдыт ужо бралі пазней, каб набыць неабходны аўтатранспарт.

***— Фірма, якую вы ўзначальваеце, носіць прыгожую назву — «Алеся»...***

— Так, прыгожую. Мне і ўсім супрацоўнікам яна таксама падабаецца. Але ў Маскве, напрыклад, мы маем філіял «Арыён», у Таджыкістане — «Марыя»...

***— Колькі чалавек працуе пад вашым кіраўніцтвам і чым яны займаюцца?***

— Колькасць супрацоўнікаў — «Алеся» існуе са снежня 1991 года, — дасягнула 200 чалавек. У нас ёсць швейная вытворчасць, дрэваапрацоўчая, каўбасны цэх, вялікі аўтапарк. Акрамя таго — сетка магазінаў і кафэ.

***— Назва «Стары замак» застанецца ў рэстарана, які фірма нядаўна набыла?***

— Застанецца. Тое, што стары, дык яно на самой справе так і ёсць. Будынак трэба прывесці ў належны выгляд, адрамантаваць сеткі. Усё гэта патрабуе вялікіх фінансавых укладанняў.

***— Вас часта можна бачыць на трыбуне стадыёна. Любіце футбол?***

— Футбол — яшчэ адна старонка майго жыцця. Калісьці я вельмі сур'ёзна захапляўся ім, меў добрыя перспектывы. Але жыццё ўнесла свае карэктывы.

***— Як вы ставіцеся да дабрачыннасці?***

— Нармальна, з разуменнем. «Алеся» дапамагала і працягвае дапамагаць многім. У гэтым спісе арганізацыі і ўстановы аховы здароўя, культуры, мастацтва, спорту, каталіцкая і праваслаўная цэрквы, цяжкахворыя дзеці, сацыяльна неабароненыя грамадзяне. Больш таго, «Алеся» з'яўляецца спонсарам Мінскага абласнога драматычнага тэатра, дзіцячага тэатра-студыі «ТэСТ», футбольнай каманды.

***— У мяне больш пытанняў няма. У заключэнне дазвольце павіншаваць вас з рэгістрацыяй кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, пажадаць вам і ўсяму калектыву «Алесі» значных поспехаў у далейшай дзейнасці на карысць людзей.***

— Я таксама жадаю поспехаў і шмат удачы «Рэгіянальнай газеце».

*Гутарыў Вячаслаў ТАБУЛІН.*

*Спецыяльна для «РГ».*

*На здымку: І. В. Бабей.*

*Фота аўтара.*

# Асабліва задаволены дзеці

У пасёлку Чысць, што раскінуўся непадалёку ад чыгункі і аўтастрады паміж Мінскам і Маладзечнам, наваселлі нярэдкасць. Будуюць тут шмат. І няма ў гэтым нічога дзіўнага. У Чысці трывала абаснавалася акцыянернае таварыства «Забудова», назва якога яскрава гаворыць сама за сябе. Ды і ведаюць гэтае прадпрыемства ўжо далёка за межамі раёна не па чутках. «Забудова» выконвае сваю галоўную функцыю — узводзіць дамы, іншыя аб'екты вытворчага і сацыяльна-культурнага прызначэння. Днямі чысцінцы зноў сталі сведкамі ўвядзення новага аб'екта ў строй дзеючых. Кіраўніцтва «Забудовы» перадала сімвалічны ключ ад спартыўна-аздараўленчага комплексу. Святкавалі гэтую падзею ўсім пасёлкам.Было шмат гасцей. Асабліва радаваліся дзеці. Бо менавіта для іх стараліся будаўнікі. Комплекс ўмяшчае ў сябе басейн, некалькі прасторных залаў, дзе будуць дзейнічаць спартыўныя секцыі па барацьбе, кікбоксінгу, цяжкай атлетыцы, абсталявана зала для заняткаў танцамі.

*Аддзел інфармацыі.*



*На здымку: першыя заплывы ў басейне.*

*Фота А.Лыскова.*

## ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

ПРАДАЮ камбайн «Ніва» або МЯНЯЮ на іншую тэхніку. Тэл. у Вілейцы 49-6-36 у вячэрні час.

ПРАДАЕЦЦА гараж у кааператыве N2 г.Вілейкі. Ёсць яма, падвал, асвятленне, атынкаваны. Тэл. у Вілейцы 5-77-65.

ПРАДАЕЦЦА міні-трактар МТЗ-082. Тэл. у Мядзелі 56-5-07 пасля 19.00.

ВЫСАКАЯКАСНЫ рамонт высокакваліфікаваным спецыялістам па памяркоўных расцэнках тэлевізараў любых марак. Устаноўка дэкодэраў ПАЛ і антэнных ўзмацняльнікаў ДМВ для якаснага прыёму тэлепраграм НТВ і С-Пецярбурга. Тэл. у Вілейцы 5-40-85 у вячэрні час.

ПРАДАМ двухпакаёвую кватэру (53/35 кв.м) у Валожыне. Тэл. у Валожыне 5-44-30

ПРАДАМ спальны гарнітур «Шчара» ва ўпакоўцы. Тэл. у Маладзечне 5 22-10.

ПРАДАМ цагляны дом у Маладзечне і карову. Тэл. 7-68-02.

ПРАДАМ недабудаваны дом у в. Выверы Маладзечанскага раёна за 6500 долараў. Тэл. у Маладзечне 5-14-97.

МЯНЯЮ новую трохпакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай з аддзелкай і новай мэбляй ва ўпакоўцы на трох-, чатырохпакаёвую ў цэнтры. Тэл. 6-01-40.

МЯНЯЮ аднапакаёвую прыватызаваную кватэру ў Ніжнекамску (18 кв. м, цэнтр, тэл.) на раўназначную ў Маладзечне ці любым горадзе Беларусі або ПРАДАМ. Тэл. ў Бабруйску (02251) 4-12-80 (Галя).

ПРАДАМ цагляны жылы дом у дачным кааператыве «Татаршчызна», МТЗ-50 з прычэпам, матацыкл ММВЗ. Тэл. у Маладзечне 7-52-26.

ПРАДАМ ручныя вязальныя машыны «Нява-5». Тэл. у Маладзечне 7-62-81.

ПРАДАМ новыя КТ «FUNAI» і відэамагнітафон «NEC». Тэл. у Маладзечне 7-82-35.

ПРАДАМ веласіпеды дарожныя, пыласосы «Электрасіла». Тэл. у Маладзечне 7-10-44, 7-13-16.

ПРАДАМ двухпакаёвую кватэру ў Валожыне. Тэл. у Маладзечне 6-69-51.

ПРАДАМ участак пад гараж, а/м «Фольксваген-Гольф» 1980 г.в. дызель. Тэл. у Маладзечне 78-4-14.

ПРАДАМ гараж у кааператыве 12, тэлевізар кубік заводскі новы. Тэл. у маладзечне 7-49-15, 6-37-61.

ПРАДАМ гараж у кааператыве 4 за 1700 долараў. Тэл. у Маладзечне 7-12-66 рабочы.

ПРАДАМ а/м «Аўдзі-80» 1984 г.в. за 2200 долараў. Тэл. у Маладзечне 7-12-66.

ПРАДАЮ тэлефоны з АВН у імпартным корпусе. Супер-200-94М забяспечвае звыш 50 функцыянальных магчымасцей, працуе на асобных і спараных тэлефонных лініях з блакіратарам. Гарантыя 1 год, сертыфікаваны, цана 570 тыс. руб. Аплата за наяўны і безнаяўны разлік. Тэл. у Маладзечне 6-46-65.

ПРАДАЮЦЦА персідскія кацяняты з радаслоўнай ад бацькоў-чэмпіёнаў. Бацька — экстрэмал. Тэл. у Маладзечне 6-69-51.

ПРАДАЕЦЦА дачны ўчастак у в. Масцішчы Маладзечанскага раёна (0,1 га, зруб 4х6 м). Тэл. у Маладзечне 7-57-02.

ПРАДАМ двух- і трохпакаёвую кватэры ў к. п. Нарач Мядзельскага раёна. Тэл. у Маладзечне 5-26-02, 6-54-63.

## КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў

*Напішыце аб'яву друкаванымі разборлівымі літарамі і дашліце ў канверце або прынясіце ў рэдакцыю ці яе прадстаўніцтва*

**Тэкст аб'явы і тэлефон (адрас) для друку:**

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна**
Маладзечна- 01773, Вілейка- 01771, Смаргонь- 01592, Ашмяны- 01593, Валожын- 01772, Мядзел- 01797, Астравец- 01591, Мінск- 0172













**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА**
**N1; 28.04.95—4.05.95**
**Заснавальнікі:** рэдактарат, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт».
**Пасведчанне** N1091.
**Выдавец:** рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты»
**Рэдактар:** Аляксандр МАНЦЭВІЧ
**Выканаўчы дырэктар:** Ігар ВЕЙС, прадстаўнік ЗАТ «Інтэрмаркет» у Вілейцы
Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж** 10000 экз.
**Цана 200 рублёў.**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
222310, Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 22А, фірма «Фаварыт», «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА»
**ПРАДСТАЎНІЦТВА ў Вілейцы:**
222410, вул. Вадап'янава, 55, ТАА «ВТХ»
**ТЭЛЕФОНЫ:**
у Маладзечне 52953
у Вілейцы 56225
у Мядзеле 55337
**ФАКС:**
у Маладзечне 52953
у Вілейцы 58622
**РЭКЛАМА**
Базавая стаўка 7500 рулёў за 1 кв. см. Прадугледжана сістэма скідак. Расцэнкі сапраўдныя да 1 чэрвеня 1995 года. Разліковы рахунак N 468704 ФАКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Рэдакцыя можа публікаваць матэрыялы, якія адлюстроўваюць толькі пазіцыю іх аўтараў, у парадку абмеркавання. Перадрук— толькі са спасылкай на «Рэгіянальную газету». Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных аб'яў.
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Валянціна Таўлая, 11
**Заказ N 507**
Падпісана ў друк 27.04.95